Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 1500 м. п.

# НАШ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 18.000 м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 3500 мк., сярод тэксту 3000 м. і на 4 стр. 2500 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 21 Нядзеля, 5-га жніўня 1923 г. Год I.

## Хьена-пястоуская зямельная рэформа.

Сойм прыняў у трэцім чытаньні уставу аб компэтэнцыі міністэрства зямельных рэформаў, а задоўга яшчэ да гэтага міністрам новага мініст. назначаны пястовец п. Осецкі

Польская хьена-пястоўская большасьць у Сойме асабліва налягала на хутчэйшае ўхваленьне гэтай уставы. Можна было думаць, што яна шчыра імкнецца да запраўднага ўвядзеньня ў жыцьцё зямельнай рэформы хоць-бы ў рамках уставы, прынятай яшчэ Уставадаўчым Соймам. Ніхто ня будзе спрачацца, што падыйсьці нарэшце да разьвязаньня зямельнага пытаньня ў Польшчы справа дужа пільная, але паглядзім ці сучасны польскі ўрад і ўрадовая соймавая большасьць, якая складаецца з паноў-абшарнікаў, вялікіх прамыслоўцаў, банкіраў, гандляроў і багатых вясковых паўпанкаў, запраўды мае гэткія замеры.

Самы факт ухваленьня Уставадаўчым Соймам уставы аб зямельнай рэформе, меў скарэй чыста-агітацыйнае значэньне, чым запраўднае жаданьне палепшыць нэндзнае бытаваньне, стогнучага ад безьзямельля і малазямельля сялянства. Трэба было даць якія-небудзь салодкія абяцанкі сялянскім сыном, якія йшлі на фронт праліваць кроў за істнаваньне незалежнай Польшчы, і Сойм, даўшы гэтыя абяцанкі, зусім не клапаціўся зьдзейсьніць іх. Зямельная рэформа за гэтыя чатыры гады выявілася хіба толькі ў пазбаўленьні зямлі тых сялян, што прымушаны былі ў часе вайны пакінуць свае родныя вёскі, і ў так званым „вайсковым асадніцтве“, пераважна, на беларуска-украінскіх абшарах. Зямлю атрымалі для карыстаньня па большай часьці розныя афіцэры польскай арміі, якія ніколі профэсыянальнымі земляробамі ня былі і зусім ня думаюць працаваць на ёй, а здаюць у арэнду мясцоваму безьзямельнаму і малазямельнаму сялянству. Тыя-ж жаўнеры-хлебаробы, якія адтрымалі зямлю ў чужым па нацыянальнасьці і жыцьцёвых варунках краі, без адпаведнай дзяржаўнай дапамогі мадзеюць, ня маючы карысьці самі, ускладаючы новы цяжар на дзяржаўны скарб і выклікаючы варожыя адносіны сярод мясцовага сялянства, бачучага ў іх тых шчасьліўцаў, адтрымаўшых землю, якую яны, іх бацькі і дзяды палівалі сваім потам.

А паны-абшарнікі тымчасам стараліся як мага больш прадаць па непамерна-высокім цэнах землі, ніштожылі лясы, бо ні Сойм ні ўрад ня выдаў загаду, забараняючага гэтую прадажу. Зямлю мог купіць толькі заможны паўпанак, а бедны малазямельны селянін ці парабак прымушаны быў чакаць і працаваць, як і раней на абшарніка, паўпанка ці асадніка.

Але вось урэшці пястоўцы голасна затрубілі, што яны знайшлі выхад, што паны-абшарнікі, як заплату за тое, што пястоўцы памаглі ім узяць уладу ў свае рукі, дабравольна згаджаюцца на правядзеньне зямельнай рэформы і кожны год будзе парцэлявацца па 400.000 маргоў. У чым-жа сутнасьць гэтага дагавору паміж Хьенай і Пястам, які будзе праводзіць у жыцьцё міністар Осецкі і ці гэта запраўды разьвяжа вострае зямельнае пытаньне на карысьць сялянскай беднаты?

Вось аснаўныя пункты гэтай умовы:

Заместа пляновай парцэляцыі бяз выкупу для тых, хто ня мае зямлі, альбо мае яе замала — зямля будзе прадавацца тым, хто мае грошы.

Парабкі і малазямельныя сяляне толькі тады змогуць купіць зямлю, калі за яе адразу заплацяць вартасьць 52 мэтрычных цэнтнэраў збожа (каля 150 пудоў) за кожны гэктар добрай зямлі. Калі-ж гэтулькі грошай мець ня будуць, дык, зразумела, нічога не адтрымаюць, а век будуць прадаваць сваю працу, каб павялічаваць багацьці абшарнікаў.

Ведама, што ў працягу апошніх 5 гадоў толькі 10 абшарнікаў прымушаны былі да парцэляцыі. Вітос-жа зусім зракаецца прымусовага выкупу. Абшарнікі могуць дабравольна прадаць 400.000 маргоў няўжытку што год, і то толькі 160.000 у этнаграфічнай Польшчы, а рэшту 240.000 на беларускіх і украінскіх „Крэсах“, і толькі ў тым выпадку, калі-б абшарнікі прадалі менш за 400.000 маргоў, дык толькі тады розьніца была-б распарцэлявана з прымусу.

Каб даць магчымасьць абшарнікам зусім вольна гандляваць зямлёй, парцэляцыю будуць вясьці, як паасобныя абшарнікі, так і гандлярскія суполкі і зямельныя ўрады пацане ня большай як вартасьць 52 мэтр. цэнтнараў збожа, а пры прымусовай парцэляцыі не даражай 36 м. цэнт. за гэктар.

Выкананьне зямельнай рэформы даручаецца бюракратычным урадам, зямельныя-ж камісіі выключаючы акружныя, будуць разьвязаны.

Каб якнайбольш зямлі заставіць у карыстаньні абшарнікаў прымусовай парцэляцыі будуць падлягаць толькі надвыжкі за 600 маргоў, іначай кажучы кожны абшарнік у працягу 10 гадоў мае права затрымаць за сабою 600 маргоў, апрача балотаў і вады, а за гэты час гэтыя 600 маргоў можа фікцыйна падзяліць паміж сябрамі сваей сям'і.

Каб ашчасьлівіць сялянства выключна няўжыткамі пастаноўлена што парцэляцыі не падлягаюць: а) грунты, на якіх зроблена меліорацыя, а таксама фальваркі маючыя селякцыйнае насеньне травы і збожа. У маёнтках, дзе ёсьць плянтацыі буракоў застаўляецца абшарнікам 2.000 маргоў, а дзе ёсьць бравары, крахмальні і г. д. — 1000 маргоў. Апрача таго ў хьена-пястоўскім акце ёсьць пункт, дзе гаворыцца, што прымусоваму выкупу не падлягаюць лясы.

Вось сэнс вітасоўскай зямельнай рэформы. Ясна, што ў гэткай форме зямельная рэформа ніякай карысьці для малазямельнага і бязьзямельнага сялянства даць ня можа, нават болей—зьяўляецца шкоднай для яго інтарэсаў.

Дзеля гэтага ўсё сялянства павінна дамагацца правядзеньня такой зямельнай рэформы, якая-б мела на мэце даць зямлю тым, хто на ёй сам працуе, забіраючы для гэтага бяз выкупу абшарніцкія землі і забараняючы гандаль зямлёю, як абшарнікам, так і спэкуляцыйным суполкам.

Але такую рэформу можа правясьці толькі работніцка-сялянскі ўрад, які ня пойдзе ні на якія компромісы з абшарнікамі.

**Яз.**

***Першы абавязак працоўнай клясы ёсьць заваеваньне сабе палітычнай моцы.***

***К. Маркс.***

## Заклік да аб'еднаньня работнікаў гарадоў і вёсак.

Фашызм у Польшчы нашоў добры для сябе грунт і ўчарэпіўшыся прагавітымі карэньнямі ў цела маладой рэспублікі, наважываецца заглушыць сваім ценям кожную праяву жыцьця, непажаданую яму. Фашызм у Польшчы ў гэты час дужа разбрак ад шовінізму і клерыкалізму і тады, як мадзярскі, італьянскі і баўгарскі фашызм дабіўся ўлады аружнай сілай, тут у Польшчы ён дарогай парлямэнтарнай змог запанаваць краем. Гэта доказ яго моцы.

Дабраўшыся да ўлады фашысты пастараюцца выкарастаць усе магчымасьці, каб задаволіць свае клясавыя інтарэсы. Ужо ў Сойме пасыпаліся розныя рэакцыйныя законапраэкты, — фашысты разгортываюць сваю праграму і калі ня сустрэнуць арганізаванага атпору з боку пролетарскіх мас, дык рэакцыя запануе як ніколі.

Ужо цяпер беларускаму селяніну жывецца так трудна як бадай ніколі так не жылося. Непамерны узрост дарагоўлі і падаткі кідаюць сялянства ў страшэнную нэндзу. Гэтая эканамічная разруха найбольш адчуваецца сялянствам. Узрост цэн на фабрычныя тавары заўсёгды ідуць уперадзе і ў шмат вышэймым разьмеры як узрост цэн на збожа і іншыя прадукты, за якія малазямельны селянін можа купіць патрэбныя яму тавары. Пры гэтым аплата працы фабрычным рабочым значна больш дапасавана да дарагоўлі як работнікам-земляробам. Аднак гарадзкія рабочыя як больш арганізаваны і больш сьвядомы—ўжо выступілі на барацьбу проціў польскіх фашыстаў выступілі ў абароне сваіх інтарэсаў. У Лодзі, Чэнстахове і іншых прамысловых пунктах рабочыя шляхам забастовак дабіліся паляпшэньня свайго быту. Ведама заспакоіліся яны не надоўга, бо дарагоўля расьце днямі і лік безработных павялічываецца, бо некаторыя прадпрыемствы таксама нявытрымліваюць дарагоўлю і банкрутуюць. Трэба чакаць новай хвалі забастовак, новых выступленьняў працоўнай масы за свае правы.

Малазямельныя і бязьзямельныя работнікі павінны таксама дамагацца сваіх правоў не чакаючы, што нехта паможа. Панскі ўрад і хіена-пястоўская большасьць у Сойме пастараюцца абыйсьці вас дзеля сваей карысьці. Сваім зямельным пактам гэтая большасьць ужо б'ець вас па самаму балючаму мейсцу—зямельнаму пытаньні, а калі вы будзеце маўчаць, дык апэтыты гэтых паноў яшчэ больш узрастуць.

Не адкладаючы на далей і не спадзяючыся на нікога малазямельныя і беззямельныя сяляне павінны дружна выступіць разам з рабочымі гарадоў за паляпшэньне свайго быту, за сваей жыцьцёвай патрэбай, як зямля і хлеб. Трэба памятаць адно, што ані рабочыя без сялян ані сяляне без рабочых не даб'юцца сваіх правоў. Толькі супольнымі сіламі, толькі аб'еднаўшыся ў вялікую сусьветную грамаду працоўных, дружным выступленьнем можна асіліць ворага.

Цяпер аб'еднаньне работнікаў гарадоў і вёсак патрэбна можа як ніколі перш, бо фашызм арганізована, адкрыта і рашуча бадай ніколі так не выступаў супроць працоўных, бо працоўныя гарадоў і вёсак ніколі не перажывалі такога эканамічнага занепаду.

**Юргілевіч.**

***Вызваленьне рабочых—ёсьць справа самых рабочых.***

# Чыя-ж зямля?

У [бязгучным зацішшы закінутае, забытай вёскі дрэмлець у паўсьне беларускі селянін.

Мазольнымі, пачарнелымі ад працы, рукамі дабывае ён у поце крывавым хлеб мільёнам людзей, жывучых па вялікіх местах і маленькіх мястэчках.

— Зямелька родная матка, — кажа ён, — ты мне свая і разам чужая.

Родная яна і разам чужая гэта праўда, як тое, што сонца раніцай ўстае, а ўвечары заходзе. Чужой зрабілі зямельку тыя хцівыя, зайздросныя людзі, якія ўхапілі яе рознымі крыўдамі і гвалтам у далёкія часы пад свае непрацоўныя панскія рукі. Ня толькі зямлю яны прысвоілі, але быў доўгі час, які яшчэ не забыты народам, калі паны і сялян лічылі сваей уласнасьцю і называлі хлопамі, быдлам, рабамі. Гэта яшчэ нядаўна было...

А потым, калі людзі сілай вырваліся з-пад панскае нявол, паны ўмудрыліся усё-ж такі затрымаць за сабой вялікія абшары зямельныя. Ніякіх правоў ня маюць паны на маёнткі. Гэтае права, якім яны трымаюць іх у сваіх непрацоўных руках, ёсьць ня права, а гвалт.

Хто-ж працуе на зямлі, калі не селянін. А мае ён толькі вузенькі шнурок радам з панскімі неабгляднымі абшарамі, якія таксама паліваюцца потам сялянскім, потам таго-ж безьзямельнага беларускага селяніна.

Дык уся гэта зямелька беларуская, яна блізкая, родная, як матка дзяцём.

І доўга народ цёмны верыў магутным паном-насільнікам. Доўга яны страшылі бедака пеклам і праклёнствам на тым сьвеце, турмой і шыбеніцай—на гэтым. Але настаў час, праўда выйшла на сьвёт, працёр беларускі селянін вочы і зразумеў, што зямля народная.

Толькі мала зразумець, трэба яе ўзяць з рук тых, хто ня хоча сам працаваць на ёй, а выжымае сокі з работнікаў, якія хочуць і могуць на ёй працаваць.

К.

# З працы Беларускай этнаграфічнай экспэдыцыі у Савец. Беларусі.

З 8 па 19 мая экспэдыцыя зрабіла першую экскурсію на Ігуменшчыну.

За гэты час па гэткаму маршруту экспэдыцыя змагла зрабіць 75 фатаграфічных здымкаў, у лік якіх уходзілі малюнкі сялянскай працы, тыпы сялян, краявід, будова, сямейны быт. Здабыта разам з драбніцай больш за 300 этнаграфічных рэчаў; сярод іх значны лік тканінаў, між якой ёсьць некалькі посьцілак досыць мастацкай, як для вёскі, апрацоўкі; колькі штук вопратак, невялікі лік вышывак, карунак, ручнікоў з вышыўкамі і патыконкамі, калекцыя паяскоў каля 40 штук; праўда, паяскі ў большасьці вузенькія просьценькія і ня вельмі багаты размаітасьцю каляровых матываў. З музычных інструмэнтаў давялося набыць толькі двое цымбалаў, некалькі дудачак, пастырскіх ражкоў і труб. Набыты невялікія прылады да апрацоўкі лёну і вырабу верацён, хатнія рэчы і інш., як, напрыклад, самадзельныя люлькі, капшукі, прыбраньні хаты і г. д. На абсьледаваных магільніках сабраны цікавыя фартушкі па свайму арыгінальнаму арнамэнту, характэрнаму для Беларусі.

Апрача зьбіраньня рэчаў, экспэдыцыя цікавілася народнай мэдыцынай, рабіла географічныя нагляды мясцовасьці, ізучала сядзібу і інш. Праўда, духоўнай культуры народу было ўдзелена вельмі мала ўвагі за адсутнасьцю часу і дзеля труднасьцяў, якія перашкаджалі часам займацца гэтай галінай народнага быту.

Між іншым, экспэдыцыі належыць першае: дасканалае ўстанаўленьне вытыкаў р. р. Нёмна і Лошы, якія пачынаюцца на хут. Падпяркі, Слабада-Пырашаўскай вол. Цікава само месца вытыку. Абедзьве рэчкі выцякаюць з аднэй невялікай крынічкі і ідуць у зусім процілежныя бакі па вырытай некаліс Радзівілам канаве. Аб пачатку гэтых рэк у народзе злажыліся прыгожыя легенды. Адна з іх вось што апавядае:

„Нёман і Лоша, якія выйшлі з аднэй крынічкі, паспрачаліся між сабой, хто з іх каму павінен пакланіцца. Паабедаўшы, Нёман і Лоша на прыгорачку прылеглі супачыць. Лоша прачнулася перша і ціханька пабегла ўючыся зялёнымі лугамі, хмызьнякамі ды балотамі. Прачнуўся Нёман, глядзіць — пабегла Лоша. Устаў тады Нёман, разьвярнуўся і панёсься праз лясы, даліны насустрэч Лошы і далёка перагнаў Лошу. Выбегла Лоша з балот ды лугоў, набраўшы ў сябе шмат ручайкоў, глядзіць, аж Нёман ужо далёка бруіць уперадзе яе... І мусіла Лоша пакланіцца Нёмну, ўліўшы свае воды ў бурлівы Нёман“.

Праца этнаграфічнай экспэдыцыі спынілася ў Узьдзе, дзе сапсаваўся фатаграфічны апарат і такім чынам асталіся несфатаграфованымі тыпы беларускіх татар і гарбарская праца, а гэтак сама засталіся не дасьледаванымі яшчэ некалькі намечаных вёсак.

Адносіны сялян да экспэдыцыі ня ўсюды былі аднальковыя і добрыя. У некаторых вёсках, як, напрыклад, у Даўгінічах, сяляне аднясьліся з такой падазронасьцю да экспэдыцыі, што ні адзін жыхар нічога не паказу і не прадаў, а на сходзе пры выбарах варты на палёх нават адзін прапанаваў экспэдыцыю заарыштаваць і адправіць у Менск.

Вынікі першай экскурсіі апрацоваваюцца для друку.

N.

# Палітычныя падзеі.

## ПОЛЬШЧА.

Маршалак Пілсудскі выехаў у Люблінскае ваяводзтва, адкуль паедзе на зьезд легіянэраў да Львова. Пілсудскі выехаў з Варшавы ў цывільнай вопратцы.

Рада міністраў выслухала даклад міністра зямельных рэформаў у справе проекту уставы аб парцэляцыі і асадніцтве.

Міністар фінансаў Ліндэ адбыў рад конфэрэнцый з прадстаўнікамі клюбаў урадовай большасьці, а таксама з віцэ-міністрам Маркоўскім, якому запрапанаваў партфэль міністра фінансаў, Маркоўскі аднак адмовіўся ад гэтай прапазыцыі. Як кандыдатаў на пасаду міністра фінансаў называюць цяперашняга міністра прамыслевасьці і гандлю Кухарскага (эндэк), сэнатара Шарскага і пасла Ярашынскага (хр.-нар).

Ад 1-га жніўня зноў павялічаны цэны на тытун і папяросы на 20-25%; гэта ўжо чацьвёртая падвышка ад часу пераходу ўлады ў рукі хіена-пястоўскай большасьці.

Выдаткі ў першай палове гэтага году выносяць 591.152.100 злотых польскіх, даходы—321.609.500 зл. пол., дэфіцыт — 259.542.600 зл. пол., што пералічыўшы на маркі становіць 6.448.565 мільёеаў марак. Найбольш выдаткаў ідзе на жал. дарогі—222.205.300 зл. п. і войска—162.091.600 зл. п., на асьвету расходавана толькі 42.505.700 зл. п.

Конфэрэнцыя дэлегатаў работнікаў у капальнях Донброўскага і Кракоўскага раёнаў пастанавіла распачаць забастоўку, дамагаючыся рэвізіі платы праз кожныя 14 дзён.

## НЯМЕЧЧЫНА.

З прычыны ўзросту дарагоўлі зноў усю Нямеччыну ахоплівае хваля забастовак: у Рурскім басэйне забаставалі горныя работнікі; ў Гамбургу бастуюць партовыя работнікі, таксама бастуюць работнікі ў Эсэнскім раёне; у Хемніцы і Кёльне забаставалі друкаршчыкі, газэты ня вышлі.

Баварскі Сойм адкінуў урадовы проект зьмены конституцыі.

Урад соцыял-дэмакратычнай фракцыі адбыў нараду з канцлерам Куно. Фракцыя запрапанавала ўласную фінансавую праграму. Разам з гэтым была абгаворана агульная сытуацыя ў Нямеччыне; пры гэтым соц.-дэм. зазначылі патрэбнасьць пэрсональных зьмен у ўрадзе на кіраўнічых гаспадарчых пасадах, для правядзеньня іхняй гаспадарчай праграмы.

## Савецкая прэса аб сытуацыі ў Нямеччыне.

„Правда“ зьмяшчае артыкул К. Радэка пад загал. „Зьбліжаючаяся банкруцтва нямецкай буржуазіі і заданьні камуністычнай барацьбы“. Радэк даказвае, што нямецкая буржуазія прайграла другую вайну, дзеля таго, што мільён марак, які цяпер плацяць за аднаго даляра прадрашае аб яе лёсе. Буржуазія будзе прымушана да капітуляцыі. Адначасна з банкруцтвам буржуазіі павялічваюцца здабыткі камуністаў, а соцыяль-дэмакраты трацяць пад нагамі грунт. У сучасны момант нямецкая камуністычная партыя налічывае каля 300.000 сяброў. Лічба гэтая малая, дзеля таго, што нямецкая буржуазія добра зарганізована. Трэба пашырыць свае ўплывы сярод работнікаў з соцыяль-дэмакратычнага лягеру, дробнай буржуазіі, незаможнага сялянства і працоўнай інтэлігэнцыі. Дагэтуль камуністы слабейшыя за праціўнікаў і не павінны даваць гэнэральны бой без выстарчаючай падгатоўкі.

## С. С. С. Р.

Дэкрэтам В.Ц.И. К-а „сьвяты для адпачынку“, якія адпавядаюць сьвятам, якія абходзяцца праз частку люднасьці праваслаўнай рэлігіі, пераносяцца з Юліянскага стылю на Грэгорыянскі.

В.Ц.И.К. і Рада народных камісараў дэкрэтам з дня 23 ліпня пастанавілі перафармаваць карэльскую камуну на аўтаномную Карэльскую сацыялістычную савецкую рэспубліку, якая, як частка, будзе ўваходзіць у Р.С.Ф.С.Р. Новая рэспубліла будзе мець аўтанамічныя камісарыяты ўнутраных спраў, справядлівасьці, асьветы, здароўя, земляробства, фінансаў, працы, савет гаспадаркі, якія будуць адказнымі перад Совнархозам і В.Ц.И.К-ам. Расейская і фінская мова—раўнапраўны.

## АНГЛІЯ.

Рада міністраў мела нарады ў справе акупацыі Рурскага басэйну. У колах палітычных ходзяць чуткі, што ангельскі ўрад перад тым як выслаць ноту да нямецкага ўраду, перашле францускаму і бэльгійскаму ўрадам ноту ў адказ на іх ноты. Бальдвін паведаміў, што на паседжаньні палаты гмінаў дасьць выясьненьні адносна становішча ангельскага ўраду ў справе Рура, рэпарацый і паветраных узбраеньняў.

## Ангельскі урад аб рэпарацыях.

Прадстаўнік ураду ў палаце гмін даў справаздачу з дыплёматычнай сытуацыі паміж саюзьнікамі ў справе рэпарацый і акупацыі Руры. Прадстаўнік ураду зазначыў, што ў праекце адказу ангельскі ўрад заняў прыхільнае становішча да нямецкай прапазыцыі аб устанаўленьні праз спэцыяльную камісію рэчазнаўцаў платаспасобнасьці Нямеччыны. Адносна гарантый з боку Нямеччыны, Англія лічыць патрэбнымі гэткія варункі: стабілізацыя маркі, раўнавага бюджэту і ўвядзеньне пэўных нормаў міжнароднага кантролю над нямецкай фінансавай гаспадаркай. Далей Англія радзіць немцам спыніць пасыўны спраціў і сабатаж, што можа зьмяніць становішча акупантаў у Рурскім басэйне. Саюзьнікам Англія прапанавала дайсьці да поўнага паразуменьня, дзеля чаго склікаць міжнародную конфэрэнцыю для апрацаваньня аканчальнага пляну і ўрэгуляваньня фінансавых спраў наогул. Італьянскі ўрад яшчэ ня прыслаў адказу, але падзяляе ангельскі пункт гледжаньня. На жаль у францускім і бэльгійскім адказах, ангельскі ўрад ня знаходзіць падстаў для супольнага адказу Нямеччыне. Дзеля таго што палажэньне становіцца ўсё больш катастрофальным, урад ангельскі прапануе апублікаваць ўсе дакумэнты дыплёматычных перагавораў у гэтай справе, што прычыніцца да высьвятленьня сытуацыі.

У гэтай-жа справе старшыня міністраў Бальдвін адчытаў дэклярацыю ўраду, у якой зазначыў, што акупацыя Руры ёсьць бязмэтнаю і можа толькі спазьніць выплату рэпарацый і перашкодзіць устанаўленьню эканамічнай раўнавагі Англіі і ўсяго сьвету. Гэта асабліва моцына адчуваецца ў Англіі і ангельская прамысловасьць з прычыны акупацыі мае ўсё большыя страты. Саюзьнікі маюць да выбару альбо аканчальна зруйнаваць Нямеччыну, ад якой ня можна тады спадзявацца ніякіх сплат, што выкліча ў эканамічным жыцьці ўсяго сьвета неаблічаныя пасьледствы, альбо мець эканамічна-моцную Нямеччыну, якая будзе мець магчымасьць заплаціць саюзьнікам патрэбныя сумы.

## ЯПОНІЯ.

У Токіо закончыліся ўступныя нарады савецка-японскія. Японскі ўрад хутка вынясе пастанову ў справе далейшых перагавораў з Савецкімі Рэспублікамі.

## КІТАЙ

„Kurjer Polski“ паведамляець, што прэзыдэнт Кітайскай рэспублікі сіліўся пакончыць самагубствам.

## ГРЭЦЫЯ.

У Грэцыі распачалася дэмобілізацыя войска, якая працякае нармальна.

## ТУРЦЫЯ.

Турэцкі ўрад мае замер з прычыны ратыфікацыі мірнага трактату абвясьціць агульную амнэстыю.

## АМЭРЫКА.

2-га жніўня памёр прэзыдэнт Злучаных Штатаў Паўночнай Амэрыкі Гардынг. Тымчасова абавязкі прэзыдэнта будзе выпаўняць віцэ-прэзыдэнт Колідж.

# З газэт.

## Агледзеліся.

У апошнія часы ўсе польскія газэты шмат пішуць аб нацыянальным пытаньні ў Польшчы і, як эндэцкая „Gazeta Warszawska“, патрабуюць зьвярнуць увагу грамадзянства і ўраду на тое,

> што праблема нацыянальных меншасьцяў патрабуе праграмную рэвізію, новага разважаньня, новай натугі думкі.

А „Kurjer Polski“ кажа, што

> даўно ўжо час выпрацаваць мінімум праграмы, якая магла-б быць праведзена ў жыцьцё ў рамках польскай дзяржаўнасьці, якая-б засыпала пропасьць паміж Польшчай і нацыянальнымі меншасьцямі, пропасьць, якая ў будучыне дужа небясьпечная.

Пасьля закрыцьця беларускіх школ, каапэратываў, пасьля прасьледаваньня беларускага друкаванага слова (нішчэньне пры вобысках белар. газэт і школьных падручнікаў, закрыцьцё газэт) пасьля высылкі за межы Польшчы 33 дзеячоў, пасьля стэрорызаваньня нашай інтэлігенцыі (Дзісьненская правакацыя), пасьля Беластоцкага працэсу, арыштаў нашых выбранцаў (паслы Баранаў і Каліноўскі), пасьля правядзеньне ў Польскія Палаты 14 нашых прадстаўнікаў, пасьля зрэалізаваньня нацыянальнага пытаньня ў Саюзе Савец. Соцыялістычных Рэспублік, пасьля усіх гэтых горкіх праўд і нашых заваяваньняў,—польскія палітычныя кругі ўрэшце агледзіліся і загаварылі аб пякучых патрэбах 30 прац. грамадзян сваей дзяржавы, належачых да няпольскай нацыянальнасьці. Магчыма, што гэтай гутаркай і кончыцца—а нават хоць бы і пачало што рабіцца ў гэтым напрамку, дык усёткі на месцу будзе іхняя пагаворка: „Mądry polak po szkodzie“.

*Пролетары, ня маюць чаго згубіць, апрача сваіх ланцугоў, а здабыць могуць увесь сьвет.*

*К. Маркс і Ф. Энгэльс.*

# Польскія турысты аб Беларусі.

У варшаўскай газэце „Kurjer Polski“ за 17-е чэрвеня зьмешчана некалькі артыкулаў аб прыгожых і здаровых мясцовасьцях у Польшчы, дзе можна аддыхнуць ад зімовае працы, паправіць сваё здароўе і налюбавацца прыгожымі ваколіцамі. Адзін з гэтых артыкулаў спэцыяльна ахвяраван Беларусі—крайняму ўсходу Віленшчыны. Даём часьць гэтага артыкулу ў перакладзе:

„Цудоўныя Наваградзкія дубровы, непараўнаныя ў сваёй прыгожасьці ўзьбярэжжы Сьвіцезі, Літоўская Швэйцарыя ў Ашмянскім павеце — усё гэта вядомыя мясцовасьці: аб іх ведае кожны, аб іх чароўнасьці нават вераб‘і на дахах шчабечуць. Калі дагэтуль дачнікі не зьяжджаюцца туды тысячамі, дык хіба дзеля таго, што варшавяк ня вельмі ахвотны ехаць да бальшавіцкай граніцы, хоць, папраўдзе, там ад граніцы досыць далёка.

Меней вядомы далейшыя мясцовасьці, на паўночны ўсход адгэтуль—нашая часьць балтыцкага вазёрнага краю, дзе, папраўдзе, ня ведаеш, чаго ёсьць болей—вады ці зямлі, зелені ці лазуровых пласьцінак—гладкіх, роўных, чысьцюткіх.

Гэта—працяг Мазурскага вазёрнага краю, які мы прайгралі ў няшчасным плебісцыце. Усюды тая самая марэна, якая некалісьці замыкала ляднікі, сунуўшыяся з Скандынаўскіх гораў. Тое самае крысталічнае дно вазёраў. Толькі край болей пустынны—больш не зачэплены і можа трохі меней гарысты і лясісты. Праўдзівым пэрлам гэтага краю ёсьць невялічкая мясьціна — цяперашняя сядзіба павятовых уладаў—Браслаў. Увесь ён расьсеўся на вузкім перашыйку паміж вазёрамі, пад замковаю гарою, на якой ледзьве можна распазнаць сьляды нейкай крэпасьці. Гара гэтая нявысокая, але досыць стромкая. Па адным баку ляжыць Дрыўята—адно з найпрыгажэйшых вазёраў павету, якое сваёю вадою абмывае некалькі выспаў—букетаў дрэва і зелені; з другога боку Браслаў абняла Наўята—меншае возера з прыгожымі гарыстымі берагамі.

З замковай гары Браслава адчыняецца проста над‘звычайны выгляд. Лясоў, далінаў, вазёраў і ўзгоркаў так шмат, што пералічыць іх нельга. Прападаюць у заваротах, зноў паказваюцца і зноў прападаюць.

Гэты край—ідэальны край для летняга адпачынку. Гэолёгічная яго будова, крысталічная будова дна вазёраў робіць тое, што сырасьці тут мала. Клімат сухі, ёсьць значныя абшары хвойнага лесу, хоць і моцна пацярэбленага ў часе вайны. Экскурсіі па ваколіцах даюць шмат цікавага. Знойдуцца там і цікавыя забыткі старасьветчыны, рэшткі старасьвецкіх будынкаў, дарогі, абкружаныя чарамі легэндаў.

Там і сям ёсьць цудоўныя паляваньні на вадзяное птаства—куры, качкі і інш. Вазёры са спакойнаю вадою, глыбокія, працягам на цэльныя кілёмэтры—гэта ідэальнае месца для вясьлярства. Прыгоркі—праўдзівы рай лыжніка зімою, тым болей, што сьнягі там вялікія і ляжаць доўга“.

# З Польскага Сойму.

Сойм урэшце прыняў у трэцім чытаньні уставу аб пэнсіі для ўрадоўцаў. Устава павялічывае шмат пэнсію для высшых урадоўцаў; надта мала для нізшых служачых, а для сярэдніх нават памяншае яе. Калі прыняць пад увагу, што ўрадоўцы цяпер ня будуць карыстацца 50% зьніжкай праезду па жал. дар., зваротам школьных аплатаў і г. д., дык становішча нізшых і сярэдніх урадоўцаў шмат пагоршана.

Далей Сойм прыступіў да разгляду бюджэтнага провізорыума на трэці квартал 1923 г. Агульны лік патрэбных для ўраду крэдытаў прадбачыцца ў суме 5 трыльёнаў 753 мільярды м. п. Даходы прадбачаныя на гэты квартал, складаюцца: 1) з падаткаў—1.315 мільярдаў, даход з жал. дарог—975 мільярдаў і іншыя даходы (з капальняў, лясоў і г д.)—789 мільярдаў. Агульная сума даходаў 3 трыльёны 079 мільярдаў марак; дэфіцыт—2 трыльёны 675 мільярдаў м. пол.

Міністар фінансаў Ліндэ выступіў з праграмнай прамовай, якую апрацоўвала камісія з трох міністраў: Гломбінскага, Кухарскага і Осецкага. Пан Ліндэ нічога не сказаў новага. Вось як „Kurjer Polski“ характарызуе яе: „Прыкра было слухаць. Зьлепак пустых фраз, каб не паддавацца пэсымізму. Некалькі ўсім вядомых праўдаў: „Перажываем пэрыяд дэфіцытаў“. — „Бязсумліўна балючым ёсьць факт, што недабор істнуе“.—„Эмісія ёсьць самым горшым цяжарам“. Дыскусія над экспозэ міністра фінансаў адбылася на чарговым паседжаньні.

Сьпешнасьць прапазыцыі пасла Домбскага ў справе Яварыны прынята і пераслана у камісію загранічных спраў.

### ІНТЭРПЭЛЯЦЫЯ

пасла Мятлы і таварышоў з Беларускага Клюбу да пана міністра ўнутраных спраў і пана міністра справядлівасьці ў справе вадлівага і антысанітарнага ўтрыманьня вастрогу ў м. Глыбокім, Дзісьненскага пав.

Усе грамадзяне, якія караюцца ў адміністратыўным парадку ў Дзісьненскім павеце зьмяшчаюцца ў вастрозе ў Глыбокім. Гэты вастрог можа ледзь зьмясьціць 25 асоб, але цяпер пакуецца да яго часта да 70 і болей асоб; такім чынам адчуваецца брак паветра для дыханьня. Людзі пакуюцца да вастрогу, як быдла ў хлеў. З прычыны антысанітарных варункаў, пашыраюцца пошасьці і дзеля гэтага істнуе страшнае незадавольства сярод арыштованых і могуць быць зусім непажаданыя вынікі. Хворыя на розныя пошасьці і іншыя ляжаць разам са здаровымі і, на просьбу аб тым, каб перавялі іх да шпіталю, кіраўнік вастрогу адказавае: „А хто будзе плаціць па 20.000 мк. штодня?“. Вар даецца толькі тым, хто ходзіць на работу, дый то не заўсёды. Да антысанітарнага ўтрыманьня вастрогу далучаецца яшчэ біцьцё арыштованых, пераважна крымінальных праступнікаў, якія зазвычай прабываюць 2—3 дні пад арыштам у Глыбокім.

Прызнаючы варункі жыцьця арыштованых немагчымымі і недапушчальнымі, дзеля таго, што яны знаходзяцца ў супярэчнасьці з падставамі цывілізацыі і права і могуць выклікаць непажаданыя вынікі, інтэрпэлянты пытаюцца паноў Міністраў.

1) Ці ведама ім аб вышэйшым факце?

2) Ці маюць замер выдаць адпаведны загад з мэтай спыненьня дагэтулешняй практыкі і становішча у Глыбоцкім вастрозе?

Варшава, 27 ліпня 1923 г.

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## З Віленскага Жыцьця.

Віленскім Выдавецтвам **Б. Клецкіна** выпушчана з друку апавяданьне А. Купрына „Алеся“ ў перакладзе пабеларуску Краўцовага Макара; кніжка мае 83 вялікіх страніцы.

Тым-жа выдавецтвам друкуецца цяпер „Пабрацімцы і Вялікая Шышка“ 1-я часьць повесьці „Вар‘ят без вар‘яцтва“ Язэпа Нарцызавага.

**Дарагоўля**. Дзьве віленскія жыдоўскія газэты і адна расейская, з прычыны ўзросту дарагоўлі, павялічылі цану кожнага нумару да 3.000 марак.

**Масавыя самагубствы**. У апошнія часы ў Польшчы ад‘значаецца вялікі лік выпадкаў самагубстваў, прычынай чаму служыць большай часьцяй крытычнае матар‘яльнае становішча. Рэгіструецца больш выпадкаў атручваньня, на што зьвярнула ўвагу міністэрства юстыцыі, якое выдала загад, каб у кожным выпадку бяспраўнай выдачы атруты паведамляць у судовыя установы.

Беларускае Грамадзянскае Сабраньне паведамляе аўтораў пьесаў „П. С. Х.“, „Жыцьцё і каханьне“, „Янка Канцавы“, што вызначаныя ім прэміі за гэтыя пьесы на конкурсе сцэнічных твораў яны могуць атрымаць у скарбніка Сабраньня (Біскупская 12).

## З Пінску.

У нядзелю 29 ліпня а 10 гадзіне вечарам было шмат шуму ў нашым горадзе. Жаўнеры 84 пяхотнага палка арыштавалі аднаго матроса за тое—быццам той з імі ў нечым не паладзіў. Гэта абурыла матросаў. І вось на Літоўскай вуліцы чатыры матросы не аддалі чэсьці пяхотнаму афіцэру, які выняўшы равальвэр запатрэбаваў адданьня чэсьці. Матросы таксама павымалі кінжалы і равальвэры. Хутка падышоў пяхотны патруль, але і яму матросы не здаліся. Сабралася шмат народу, падыйшло пяхотнае войска, прыбыла і матросам помач, пачалася страляніна і усе разьбегліся, але матросы усё-ткі не здаліся Сярод іх аказалася двух лёгка раненых і адзін сьмяртэльна.

## З Слуцку.

На сёмуху ў Слуцку бывае вялікі кірмаш заўсёды; таксама было і сёлета. Народу з вёсак да манастыру зьехалася шмат; прыйшлі і дзяўчаты з хлопцамі. Ня мінулі манастырскае царквы і слуцкія настаўніцы з некаторымі настаунікамі. Цягне... У самы разгар у дзьве гадзіны, згодна вывешанай абвестцы на манастырскіх варотах, у быўшым манастырскім, а цяпер тэхнікумаўскім корпусе, вучоны аграном сельска-гаспадарчага тэхнікуму т. Барташэвіч прачытаў лекцыю аб пчалярстве, паказваючы малюнкі вульёў і інш. Народу ад царквы сабралася шмат. Уважліва слухалі і былі ўдзячны. Гэтакую спробу трэба мець на ўвазе і скарыстаць.

**Н. З.**

# Весткі з вёскі.

**М. Трабы**, Валожын. пав.

23-га ліпня г. г. у вёсцы Палудаўшчыне гаспадар Ігнат Кандрат зьбіў да паўсьмерці служанку свайго суседа, якая, прышоўшы да сябе зьвярнулася з заявай да Трабскай паліцыі.

Былі высланы два паліцыянты, каб арыштаваць Кандрата. Зашоўшы да хаты Кандрата, паліцыянты, наеўшыся добра і напіўшыся гарэлкі, прызвалі да сябе пабітую служанку дзеля дапросу, дзе яшчэ, болей яе абабілі, вылілі крыві з носу і набілі сінякоў.

Доўга не чакаючы, служанка зьвярнулася да доктара, які выдаў пасьведчаньне аб пабоях. Па сваёй легкавернасьці пабітая з гэтым пасьведчаньнем зьвярнулася да паліцыі, якая забрала яго і прыказала з усімі пагадзіцца.

Служанка, ня гледзячы на загад паліцыянтаў на згоду і ня гледзячы на сваю беднасьць, што шмат будзе каштаваць, дзела направіла ў суд.

**Пак.**



### Мы не роўнапраўныя грамадзяне.

У вёсцы Хахулькі Язьненскай воласьці, Дзісьненскага павету жывець Якуб Трусаў, які лічыць сябе ў праве даставаць эмэрытуру, як былы вайсковы. Зьвяртаўся ён ужо не адзін раз да Powiatowej Komendy Uzupełnień у Глыбокім у справе прызначэньня яму пэнсіі-эмэрытуры, але нічога дастаць яму не ўдалося дагэтуль, а ў той-жа час ахвіцэры былой расейскай арміі Матусэвіч і Петракоўскі—палякі па нацыянальнасьці—гэтую эмэрытуру дастаюць, хоць у расейскім войску служылі яны не даўжэй, чым Трусаў. Хацеў-бы я даведацца, няўжо нават ў эмэрытурнай дапамозе закон польскі адрозьнівае палякаў ад непалякоў? Прасіў-бы я компэтэнтных людзей растлумачыць закон аб эмэрытуры, бо ў такім становішчы, як гэны Трусаў, апынуся не адзін дзесятак старых людзей.

**Стары Лаўрын.**

# Дапісы.

## З Літвы.

### Курсы Беларусазнаўства.

Пры Міністэрстве Беларускіх Спраў ад 10.IV. да 19.V. адбываліся курсы Беларусаведаньня. Усяго было 35 дзён працы. Лекцыі чыталіся штодня па 3 гадзіны: ад 5-тай да 8-май вечара. Лектарамі былі К. Дуж-Душэўскі, В. Ластоўскі і М. Сафронаў. Кіраўніком курсаў быў К. Дуж-Душэўскі.

Праграма імкнулася азнаёміць слухачоў з гісторыяй, географіяй і літэратурай беларускай, а таксама выкладаліся беларуская граматыка і літоўская мова. Слухачоў прынята было на курсы 44 душы: беларусаў 33, літвіноў 4, расейцаў 5, палякоў 1, без акрэсьленьня нацыянальнасьці 1. Мужчын 23, кабет 21. Большасьць слухачоў — сярэдняя інтэлігэнцыя: вучыцялі, чыноўнікі, вучні.

Ход курсаў рабіў прыемнае ўражаньне: слухачы з павагай працавалі і з цікавасьцю сачылі за ўсімі лекцыямі.

### Беларускі вечар.

Беларускі Жаночы гурток уладзіў дабрачынны вечар на карысьць беларускіх дзіцячых прытулкаў. Вечар даў чыстага зыску звыж 1.000 літаў.

## З Латвіі.

(Ад нашага карэспандэнта).

Краслаўка 22—VII. У нашым горадзе адбылася вечарына, ладжаная Краслаўскім Аддзелам Т-ва „Бацькаушчына“ пры дапамозе Дзьвінскага аддзелу. Галоўнай кіраўніцай працы была вядомая П. Мядзёлка. Вельмі ўдала згулялі „Паўлінку“ Янкі Купалы. Беларускі хор прапяяў шмат народных песень, дужа зацікавіўшы публіку хараством роднай песьні. Пад гукі духавога аркестру скакалі „Лявоніху“, ажно тры разы.

Наагул вечарына зрабіла добрае ўражаньне і ўсе краслаўцы правадзілі ад‘яжджаючую трупу, просячы не забывацца на Краслаўку.

**Тутэйшы.**

## З Прагі.

(Ад нашага карэспандэнта).

6—VII г. г. у Празе адбылося ўрачыстае адкрыцьцё Украінскага Пэдагогічнага інстытуту імені М. Драгаманава. З прывітальнымі прамовамі выступалі прадстаўнікі розных арганізацый, паміж іншымі ад Украінскага Грамадзкага Камітэту выступаў М. Шаповал, ад грузінскай калёніі эмігрантаў Айоно, ад Бела-

